*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# ЗВЯЗДА



**24** мая 1991 г. ПЯТНІЦА

*Газета выдаецца са жніўня 1917 года*

**Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР**

№ 100 (21628)

Цана 10 кап.

## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

### ПРАГРАМА ЎРАДА, РОЗНЫЯ АЦЭНКІ...

Здаецца, што ўрад хоча перакласці большую частку адказнасці за выкананне прапанаванай ім Дзяржаўнай праграмы стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароны насельніцтва на плечы Вярхоўнага Савета. Гэта думка не раз гучала пры разглядзе дакумента ў пастаянных парламенцкіх камісіях і на папярэднім абмеркаванні ў зале пленарных пасяджэнняў. Папрокі ў адрас распрацоўшчыкаў праграмы пачаліся ўжо з самой яе назвы. Чаму праграма «дзяржаўная»? Ці не больш разумна назваць яе ўрадавай або мерамі Савета Міністраў па стабілізацыі эканомікі?

Першаму намесніку Старшыні Савета Міністраў БССР Міхаілу Мясніковічу прыйшлося, што называецца, трымаць кругавую абарону. Ён так аргументаваў пазіцыю ўрада:

— Сёння мы жывём і працуем ва ўмовах Саюза. І, натуральна, адстойваць агульныя інтарэсы рэспублікі ў цэнтры лягчэй ад імя не толькі Савета Міністраў, але і вышэйшай улады Беларусі. Не магу згадзіцца з тымі крытыкамі, якія называюць праграму дэкларатыўнай. У ёй канцэптуальна адлюстраваны падыходы і бачанне праблем. Ва ўрада пад гэты дакумент ёсць канкрэтныя планы работы, з канкрэтнымі выканаўцамі і тэрмінамі.

Неправамернымі выглядаюць абвінавачванні і ў дыктатарскім характары праграмы. Бо ў ёй дакладна і ясна абазначаны шматлікія магчымасці для расшырэння прадпрымальніцтва ў самых розных сферах для ўсіх форм уласнасці. А меры забірання прымусовага характару, якія, натуральна, не могуць быць папулярнымі ні ў якіх умовах, займаюць на гэтым фоне вельмі скромнае месца. У цэлым жа антыкрызісная праграма не супярэчыць, а, наадварот, развівае палажэнні праграмы пераходу да рынку, указвае шляхі і механізмы далейшай работы.

...На перапынак дэпутаты выходзілі заклапочанымі. Кожнаму з іх трэба будзе вызначыць свае адносіны да важнейшай праблемы. І вельмі дорага могуць абысціся памылкі. Але раней, чым галасаваць, усе народныя выбраннікі сабраліся ў галоўнай зале, дзе ў 16 гадзін аднавілася пленарнае пасяджэнне.

**У. ГЛОД, Я. ГАРЭЛІК, А. КРЫЖАНОЎСКІ,**
**парламенцкія карэспандэнты БЕЛТА.**

### ГОСЦІ З ПРЫБАЛТЫКІ

**СМАЛЯВІЧЫ. (С. Букаціч). 21 мая на Беларускім аўтазаводзе ў Жодзіна адбылася сустрэча камуністаў і беспартыйных работнікаў аб'яднання з сакратаром ЦК Кампартыі Эстоніі, народным дэпутатам рэспублікі Мікалаем Аляксандравічам Захаравым і народным дэпутатам Латвіі, намеснікам старшыні фракцыі «Раўнапраўе» Вярхоўнага Савета Латвійскай рэспублікі Яўгенам Мікалаевічам Ягубцом.**

Госці з Прыбалтыкі расказалі аб эканамічным і палітычным становішчы ў сваіх рэспубліках. Умовы для дзейнасці камуністаў зараз вельмі цяжкія, але ўсё ж у апошні час партыя папаўняецца новымі людзьмі—працоўныя пачынаюць разумець, да чаго могуць прывесці нястрымныя вузканацыяналістычныя амбіцыі вышэйшага кіраўніцтва ў Латвіі і Эстоніі.

М. Захараў і Я. Ягубец адказалі таксама на шматлікія вострыя пытанні прысутных.

### БУДУЕЦЦА ШКОЛА

**ШЧУЧЫН. (М. Смалян). У канцы вуліцы Леніна паднялася страла вежавага крана.**

Гэта калектыў Шчучынскай МПМК-167 пачаў у райцэнтры будаўніцтва трэцяй сярэдняй школы. У сучасным трохпавярховым будынку размесцяцца, цір, плавальны басейн, спартыўная зала, сталовая, шматлікія вучэбныя кабінеты. Агульная плошча разам са стадыёнам складзе 26 тысяч квадратных метраў. Першага верасня будучага года за парты сядуць 1.296 вучняў.

### НА РОЎНЫХ З ЗАМЕЖНЫМІ ФІРМАМІ

**Упершыню ў нашай краіне ў Мінскім радыётэхнічным інстытуце пад кіраўніцтвам доктара тэхнічных навук прафесара Я. Алішава створаны макетныя ўзоры валаконна-аптычных сістэм на 1,2 гігабіта ў секунду, што дазваляе наладзіць больш як 17 тысяч лічбавых тэлефонных каналаў высокай якасці.**

— Па важнейшых параметрах, — гаворыць Япанчэ Вагізавіч, — яны пераўзыходзяць усе вядомыя замежныя і айчынныя распрацоўкі, аб чым сведчаць высокія ацэнкі спецыялістаў. Многія з іх атрымалі медалі і дыпломы ў час дэманстрацыі на ВДНГ СССР і выстаўках у Чэха-Славакіі, Венгрыі і на Лейпцыгскім кірмашы. Ад многіх краін, у тым ліку ад нашых бліжэйшых суседзяў—Польшчы, ФРГ, паступілі прапановы аб закупцы такіх прыбораў. Усе распрацоўкі абаронены 16 аўтарскімі пасведчаннямі і больш як 100 публікацыямі ў перыядычным друку.

Устаноўлена таксама міжнароднае супрацоўніцтва па распрацоўцы звышвысокаскарасных прыбораў перадачы інфармацыі. Атрымана ліцэнзія на продаж апаратуры вымярэння асноўных параметраў аптычных кабеляў.

Пад кіраўніцтвам кандыдата эканамічных навук дацэнта А. Ткачэнкі распрацавана канцэпцыя будаўніцтва сетак размеркавання, у тым ліку сістэм кабельнага тэлебачання. Створаны і ўкаранёны доследныя ўзоры сігналаў павышанай дакладнасці — манахронны і каляровы варыянты.

**К. КАНУС.**

### ВОЗЬМУЦЦА СТУДЭНТЫ ЗА МАТЫКУ

**ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ. (У. Пернікаў). На 23 працэнты скарацілася пасля чарнобыльскай аварыі колькасць працаздольнага насельніцтва ў вёсцы. Паток адсяленцаў адтуль павялічваецца. Ці ў стане накарміць горад тыя, хто пакуль яшчэ жыве на сяле?**

З гэтай нагоды ў аблвыканкоме правялі нараду з удзелам зацікаўленых бакоў. Вырашана на догляд пасеваў і ўборку ўраджаю на палеткі вобласці паслаць 18 тысяч студэнтаў. Акрамя таго, 5 тысяч на час працоўнага семестра будзе адпраўлена ў Малдову, Крым і Стаўраполле. Частка вырашчанай там сельгаспрадукцыі паступіць на Гомельшчыну.

Меры, вядома, патрэбныя. Але ж ці толькі на студэнтаў трэба спадзявацца?

● СТОП-ФАКТ ● СТОП-ФАКТ ● СТОП-ФАКТ

### ЖЫЦЦЁ, АДДАДЗЕНАЕ ГІСТОРЫІ

**КРЫЧАЎ. (А. Балдоўскі). 70 гадоў споўнілася стваральніку мясцовага краязнаўчага музея М. Ф. Мельнікаву — беларускаму краязнаўцу, заслужанаму работніку культуры рэспублікі, пісьменніку, журналісту.**

Гэты ўлюбёны ў гісторыю роднага краю чалавек «захварэў» стварэннем музея яшчэ ў дзяцінстве, калі дзесяцігадовым хлапчуком у пачатку 30-х суправаджаў свайго бацьку, які працаваў тэхнікам па сельскай гаспадарцы, у паездках па навакольных вёсках. Міша збіраў розныя чарапкі, прылады працы, старажытныя манеты... Дапамагалі сябрыаднакласнікі. Прызыў на службу ў Чырвоную Армію ў 1940 годзе не прытупіў жадання юнака, не астудзілі гэтай яго апантанасці і моцныя маразы Варкуты, куды трапіў па зламыснаму нагавору на доўгія 11 гадоў.

Толькі ў 50-х змог Міхаіл Фёдаравіч пачаць ажыццяўленне сваёй дзіцячай мары. Працаваў на грамадскіх асновах, яшчэ і свае сродкі ўкладваў. І вось праз дзесяцігоддзі музей атрымаў афіцыяльнае прызнанне.

Павіншаваць Міхаіла Фёдаравіча са знамянальнай датай у залу Крычаўскага РДК прыйшлі прадстаўнікі гаркома партыі, гарадскога і раённага Саветаў народных дэпутатаў, савета ветэранаў, журналісты, работнікі культуры і мясцовая інтэлігенцыя. Яны пажадалі юбіляру моцнага здароўя, даўгалецця, дабрабыту і далейшых творчых поспехаў на карысць роднай Беларусі.




## Брокеры—людзі дзелавыя

**БЕЛАРУСКАЯ УНІВЕРСАЛЬНАЯ БІРЖА ПАЧАЛА СВАЮ «ПРАЦОЎНУЮ БІЯГРАФІЮ» — УЧОРА ЯНА ПРАВЯЛА Ў МІНСКУ ПЕРШЫЯ ТОРГІ**

**Трэба напомніць, што ў першыя гады Савецкай улады ў СССР існавала каля 100 бірж. Значыць, сёння мы вяртаемся да таго, што калісьці было, але грунтоўна забылася. У праекце Дзяржаўнай праграмы стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароны насельніцтва рэспублікі таксама прапануецца забяспечыць сёлета фарміраванне асноў інфраструктуры таварнага рынку, уключаючы стварэнне таварна-сыравінных бірж, брокерскіх і дылерскіх кантор. Мяркуецца таксама легалізаваць і забяспечыць прававую абарону пасрэдніцкай дзейнасці.**

**Так што, па ўсім відаць, прыйдзецца прывыкаць да гэтых, дзіўных пакуль што для нас, паняццяў і прафесій — брокер і дылер, імкнуцца гандляваць і гаспадарыць так, як таго патрабуе рынак.**

Рэпартаж

Да першых сваіх торгаў работнікі і спецыялісты Беларускай універсальнай біржы рыхтаваліся не адзін тыдзень. Рыхтаваліся да іх і знаўцы біржавай справы, напрыклад, з мінскай брокерскай фірмы «Юнітур». Аўтар гэтых радкоў не ўстрымаўся і спытаў у яе дырэктара Віктара Мяшчанава, як усё ж вызначыць сёння сутнасць гэтай новай для нашага грамадства прафесіі — брокер.

— З пэўнай папраўкай на цяперашнія ўмовы, — адказаў Віктар Генадзьевіч, — брокерам можна назваць чалавека, непасрэдна працуючага на біржы, які за свае сродкі купіў там сабе рабочае месца (ці гэта робіць фірма, якую брокер прадстаўляе). Ён ажыццяўляе пасрэдніцкую, звязваючую ролю паміж прадаўцом і пакупніком. Брокер удзельнічае ў торгах з правам пакупкі і продажу тавараў кліентаў. Больш нікога ў зале торгаў не павінна быць, паколькі Беларуская біржа — так званага закрытага тыпу.

Аднак гэтыя торгі — першыя. Іх арганізатары ўлічылі гэты важны момант — у залу былі запрошаны і «простыя» прадстаўнікі прадпрыемстваў і арганізацый, якія прыйшлі на вуліцу Казінца, 2 па вопыт. Нягледзячы, між іншым, на тое, што ўваходны білет каштуе ажно 100 рублёў. Значыць, паслаўшыя іх вытворчыя калектывы ўсведамляюць важнасць падзеі.

...Вядучы торгаў, віцэ-прэзідэнт Беларускай універсальнай біржы У. Ціхановіч аб'яўляе першую «пазіцыю»:

— Цвікі будаўнічыя, сто тон, на суму 300 тысяч рублёў, па цане тры рублі за кілаграм!

Аднак прапаноў куплі буйной партыі дэфіцытнага тавару адразу не паступае.

І вось пасля некалькіх «прыстрэлачных» аб'яў на «ўра» праходзіць першая здзелка. Куплена немалая партыя ацынкаванай металічнай сеткі па цане 5 рублёў за квадратны метр, і брокер пад парадкавым нумарам «3» — Дзмітрый Буката — зрывае апладысменты.

З кожнай новай аб'явай гандаль ажыўляецца: справа даходзіць і да аўкцыённага варыянта, калі за права ажыццявіць здзелку змагаюцца некалькі брокераў. І вось ужо вядучы торгаў выкрыквае:

— Партыя кардону коштам за тону 1 тысяча рублёў! Хто больш? 1.050... 1.100... Яшчэ прапановы? 1.200 рублёў за тону — здзелка адбылася!

За гадзіну-другую многія партыі тавараў набылі сваіх новых уладальнікаў. Пакупнікам, дакладней, іх прадстаўнікамброкерам было дзе разгарнуцца — прадукцыя для торгаў прадстаўлена па многіх раздзелах: метал, будматэрыялы, хімія і дрэваапрацоўка, бытавыя прыборы і машыны, радыёэлектроніка, сантэхнічнае і газавае абсталяванне — многія сотні найменняў. А ўсяго, калі канчаткова падлічылі, аказалася: агульны аб'ём прамысловай прадукцыі і тавараў, прапанаваных для торгаў, склаў амаль 30 мільёнаў рублёў.

Так, ужо відаць, што біржа, абслугоўваючыя яе брокеры робяць добрую справу — выцягваюць, вобразна кажучы, «лішнюю» прадукцыю, дэфіцыт на белы свет, каб пусціць усё ў справу. Гэта адчувальная дапамога тым вытворчым калектывам, якія сядзяць на сыравінным галодным пайку. Вось думка, напрыклад, начальніка ўпраўлення вытворча-тэхналагічнай камплектацыі трэста «Белэнергабуд» Мікалая Гаркавага, які прыйшоў на біржу пакуль што ў якасці назіральніка:

— Планавага матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння ў нас сёння амаль няма. Мяркуйце самі: на другі квартал трэсту выдзелены нарады на цэмент (на паперы, зразумела) на 7.300 тон, а заводы-пастаўшчыкі прынялі заказ толькі на 4 тысячы тон. А тут бачу: калі заключу здзелку на біржы—атрымаю ўсе 100 працэнтаў. Значыць, будзе канкурэнцыя Дзяржснабу, справы пойдуць лепш. Можа, пакуль і не ўсё на нашай біржы робіцца на ўзроўні сусветных стандартаў, але, думаю, гэта пытанне часу, і сапраўдны рынак паставіць справу як мае быць.

...Торгі тым часам ідуць сваім ходам. Як і павінна быць, камусьці шанцуе больш, камусьці менш — канкурэнцыя дыктуе свае правілы гульні. У адным з перапынкаў удалося ўзяць мініінтэрв'ю ў віцэ-прэзідэнта біржы У. Ціхановіча. Вось што ён сказаў:

— Думаем сёння рэалізаваць прыкладна пятую частку прадстаўленай на торгі прадукцыі — амаль на 6 мільёнаў рублёў. Зусім нядрэнны вынік, асабліва калі ўлічыць, што ў такой складанай справе на першым часе заўсёды нямала цяжкасцей. Галоўнае ж, што многія прадпрыемствы атрымалі ад гэтай акцыі адчувальную матэрыяльную падтрымку, забяспечылі сябе работай, а дзелавыя людзі ўбачылі неабходнасць біржы ў іх сённяшняй вытворчай дзейнасці.

Пагадзімся з гэтай думкай. І яшчэ ўспомнім, што тэрмін «біржа» паходзіць ад лацінскага слова «кашалёк». Таму і пажадаем Беларускай універсальнай біржы, каб сваёй дзейнасцю яна рабіла агульны кашалёк народнай гаспадаркі рэспублікі як мага больш поўным. Гэта так важна сёння.

**В. ЧАРНЯЎСКІ,**
**спец. кар. «Звязды».**

**На здымках:** тут размясцілася біржа; торгі вядзе віцэ-прэзідэнт Беларускай універсальнай біржы **У. Ціхановіч;** у зале напал эмоцый.

**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**



## Абыдземся без нулёў

Пра набалелае

Не ведаю, як вам, а мне падабаецца прытча пра жабу, трапіўшую ў збан з малаком. Яна не пайшла на дно, а з падвоенай энергіяй прынялася дрыгаць лапкамі, пакуль не збіла пад сабой астравок масла. Не прыдумвала «канцэпцый выхаду з крызіснага становішча» — працавала. І таму выратавалася. А памятаеце, у фільме «Вызваленне» савецкія салдаты разам з яшчэ не капітуляваўшымі гітлераўцамі суцішаюць паніку ў Берлінскім метро, куды па загаду фюрэра былі пушчаны воды Шпрэе? Здараюцца сітуацыі, пры якіх тэарэтычныя і іншыя дыскусіі недарэчныя...

Адносна забастовак. Па іх сёння цяжка вызначыць, на чыім баку праўда. Але з вядомага моманту, а ён ужо настаў (учытайцеся ў эканамічныя параўнанні мая сёлетняга з леташнім і тым больш пазалеташнім), заклікі да спынення работы становяцца проста недапушчальнымі. Аднак заклікаюць. Пры гэтым думка многіх нярэдка фальсіфікуецца. У артыкуле «Вырашаць лёс народа трэба сумленна», апублікаваным «Народнай газетай» у сакавіку, былі дапушчаны некаторыя даволі прынцыповыя «недакладнасці». Атрымалася так, што звычайны сход у адным з цэхаў Мінскага завода вылічальнай тэхнікі, дзе так да канца і не вызначылі, у якіх фармулёўках выказаць сваё рашэнне, ператварыўся ў магутны форум пратэсту. Пісьмо ў адрас Вярхоўнага Савета БССР і Савета Міністраў рэспублікі з законнымі эканамічнымі патрабаваннямі, якое прымалася на сходзе, ператварылася ў «зварот да працоўных Беларусі». Як так атрымалася? Сакратар сходу В. Цытрон падрэдагаваў і ўзмацніў тэкст, старшыня Б. Шэдзь, не гледзячы, падпісаў. І пайшлі гуляць страсці!

Гэта — прыватны выпадак, але ён адлюстроўвае многае. Скажам, чаго вартыя паведамленні аб «стотысячных» мітынгах на плошчы, якая і блізка не ўмяшчае такой масы народу. Сёння неяк «нямодна» ўслых выступаць супраць забастовак, нікому не хочацца лічыцца штрэйкбрэхерам. І, уздыхнуўшы, іншы рабочы цягне руку «за», хоць з задавальненнем уключыў бы станок. Зразумела, і тут многае тармозіць: то метал не таго профілю, то інструмент дрэннай якасці... Але не на мітынгу ж падобныя праблемы вырашаць?

А вось што здарылася на заводзе вузлоў ЭВМ таго ж аб'яднання вылічальнай тэхнікі. Сустаршыні стачкома гэтага прадпрыемства ў памятныя дваццатыя числы красавіка аўтарытэтна далажылі на сваім пасяджэнні: каля паўтары тысячы завадчан выказаліся за спыненне работы! З 2.188, прыняўшых удзел у абмеркаванні гэтага пытання. Уражвае! Ды толькі, калі праверылі, — ліпа. Галоўны інжынер завода І. Вішнеўскі, як кажуць, з арыфмометрам у руках праверыў прадстаўленыя стачкомам пратаколы: не атрымліваецца! І васьмісот не набралася. Ніяк не атрымліваецца аднадушнасці ў імкненні не працаваць.

Дарэчы, прыпіскі бяруць пачатак якраз у нетрах адміністрацыйна-каманднай сістэмы, якая з лёгкасцю аперыравала мільёнамі, акругляючы дзеля выгады ў той ці іншы бок. Так што стачкомаўцы, змагаючыся з таталітарызмам, нічога новага не адкрылі.

Для Мінскага вытворчага аб'яднання вылічальнай тэхнікі адзін дзень прастою — 3 мільёны рублёў нявыпушчанай прадукцыі. Адпаведна — страты салідных сум прыбытку. У калектыве, які перажывае сур'ёзныя праблемы са збытам устарэлай прадукцыі, які знаходзіцца на стадыі асваення новых вырабаў, кожны рабочы дзень на асаблівым рахунку. Тут знайшлі пэўныя, можа, і не самыя лепшыя варыянты змякчэння красавіцкага ўдару— да мінімуму скарацілі фонд развіцця, правялі дэталёвы аналіз усіх каштарысаў расходаў. Здолелі-такі ўтрымаць у запланаваных рамках калектыўнага дагавора сацыяльныя праграмы.

— Мы проста пазычылі ў саміх сябе, — гаворыць галоўны эканаміст аб'яднання С. Кавалёў. — Спадзёмся, што адпрацуем. Намецілі да канца года ўдвая павялічыць зарплату работнікам вытворчай сферы ў параўнанні з даходамі на канец першага квартала. Задача звышскладаная. Пакуль што моцна адстаём ад таго рытму, які забяспечыць неабходны прырост аб'ёмаў вытворчасці.

І ў гэтых умовах спыняць работу? Недапастаўкі заводскай прадукцыі не адразу прывядуць да відавочных збояў у спажыўцоў — гэта не хлеб, не вугаль. Але ніхто не паднясе бастуючым вядомы сподачак з залатым беражком, і на ім мільён-другі. Не тыя часы. Нават для шахцёраў прыбаўка не раптам знаходзіцца.

Гэта добра разумее і большасць рабочых.

— Існуючыя даплаты не здымаюць усіх праблем, — выказвае свой пункт погляду майстар, член стачкома Віктар Усік. — Мы разумеем, што больш няма адкуль узяць. Рабочыя паставілі перад адміністрацыяй шэраг вострых пытанняў. Паўмеры, латанне дзірак— гэтага сёння мала.

Рабочыя, спецыялісты патрабуюць, каб кіраўніцтва апаратыўна падрыхтавала дакладную праграму выхаду калектыву з крызісу. Такая магчымасць ёсць. Ідзе асваенне новых відаў прадукцыі: персанальных ЭВМ, модуляў прафарыентацыі, неўзабаве пачнецца выпуск электронных АТС. Сёння заводскі «шырспажыў» — гэта каля шасцідзесяці назваў. Выпускаюцца проціўгонныя ўстройствы на аўтамабілі, кампактныя дрэваапрацоўчыя станкі, медыцынскія шафы, свяцільнікі мастацкага ліцця. Вядома, скарачэнне аб'ёмаў выпуску вялікіх і сярэдніх ЭВМ ставіць цяжкія праблемы, нялёгка будзе заняць людзей, захаваць кадры. Але менавіта работа адкрывае новыя перспектывы.

— У нас па-рознаму ставяцца да забастовак, як да сродку вырашэння палітычных і эканамічных пытанняў, — працягвае майстар. — Ёсць такія, хто лічыць: маўляў, далі і яшчэ дадуць, калі выйдзем на плошчу. Толькі большасць ужо расчаравалася ў падобных метадах. Мы, напрыклад, звярнуліся да сумежнікаў з заклікам выкарыстоўваць іншыя сродкі барацьбы за свае правы, не звязаныя са спыненнем работы. Кожны павінен мець права зарабляць, а на сучаснай вытворчасці адсутнасць аднаго тармозіць многіх іншых.

Мінулыя дзесяцігоддзі адвучылі нас паважаць лозунгі накшталт: папрацуем дзеля светлай будучыні! Але тут ёсць хоць нейкі сэнс. Прастойваць дзеля будучага дабрабыту — увогуле абсурд. І ўжо зусім безадказна маніпуліраваць пры гэтым празнымі паняццямі, як, напрыклад, тымі ж лічбамі бастуючых.

**А. САРАПКІН,**
**рэдактар шматтыражнай газеты «Электрон» Мінскага вытворчага аб'яднання вылічальнай тэхнікі.**

### Пастанова Вярхоўнага Савета СССР

## Аб праекце Саюзнага дагавора

Абмеркаваўшы праект новага Саюзнага дагавора, агульная канцэпцыя якога падтрымана чацвёртым З'ездам народных дэпутатаў СССР, Вярхоўны Савет СССР **пастанаўляе:**

1. Прызнаць неабходным прывесці тэкст праекта Саюзнага дагавора ў адпаведнасць з вынікамі рэферэндуму СССР, які адбыўся 17 сакавіка 1991 года.

2. Прыняць да ведама інфармацыю аб выніках абмеркавання праекта Саюзнага дагавора ў камітэтах Вярхоўнага Савета СССР, пастаянных камісіях палат і ў групах народных дэпутатаў СССР. Перадаць прапановы і заўвагі камітэтаў, камісій, дэпутацкіх груп і народных дэпутатаў СССР у падрыхтоўчы камітэт, утвораны чацвёртым З'ездам народных дэпутатаў СССР, для іх уліку пры дапрацоўцы праекта Саюзнага дагавора.

3. Прызнаць мэтазгодным удзел у падпісанні Саюзнага дагавора прадстаўнікоў, дэлегаваных вышэйшымі органамі дзяржаўнай улады Саюза ССР.

**Старшыня Вярхоўнага Савета СССР**
**А. ЛУК'ЯНАЎ.**

Масква, Крэмль. 22 мая 1991 г.

## У Дзяржкамстаце, Дзяржкампрацы і Мінфіне БССР

Кіруючыся пастановай Савета Міністраў БССР ад 26 лютага 1991 года № 70 «Аб мерах па рэалізацыі пастановы Вярхоўнага Савета БССР «Аб увядзенні ў дзеянне Закона Беларускай ССР «Аб індэксацыі даходаў насельніцтва з улікам інфляцыі», якой устаноўлена, што пры аднаразовым павышэнні дзяржавай цэн на тавары і паслугі з выплатай насельніцтву кампенсацый новая цана прымаецца ў якасці базавай для разліку індэкса спажывецкіх цэн, Дзяржкамстат БССР, Дзяржкампрацы БССР і Мінфін БССР зрабілі пералік базы, якая вызначае велічыню пражытачнага мінімуму, прымаемага для мэт індэксацыі даходаў насельніцтва рэспублікі.

Па харчовых і нехарчовых таварах і паслугах, уключаных у састаў «спажывецкай карзіны» з улікам фактычна існаваўшых цэн у красавіку г. г., базавая велічыня пражытачнага мінімуму ўзрасла і склала 265 рублёў у месяц.

Вынікі пераліку зацверджаны пастановай Савета Міністраў БССР ад 17 мая 1991 года № 185 «Аб удасканаленні кампенсацыйных выплат і заработнай платы».

У дапаўненне да прамых кампенсацыйных выплат, звязаных з рэформай дзяржаўных рознічных цэн, грашовыя даходы за красавік у адпаведнасці з Законам Беларускай ССР індэксіраваліся ў размеры 11,1 працэнта, таму што ў сакавіку велічыня індэкса не перавысіла 5-працэнтны парог і склала 3,8 працэнта.

У далейшым урад рэспублікі палічыў неабходным уключыць з першага мая г. г. у тарыфныя стаўкі, службовыя аклады, дзяржаўныя пенсіі, дапамогі і стыпендыі сумы, якія звязаны з індэксацыяй даходаў насельніцтва зыходзячы з павышэння цэн за студзень—сакавік 1991 года ў размеры 15,3 працэнта, у тым ліку за студзень—люты — на 11,1 працэнта і за сакавік — на 3,8 працэнта, і прамыя кампенсацыйныя выплаты.

Зыходзячы з прынятых урадам рэспублікі рашэнняў разлік індэксаў цэн па таварах і паслугах, уключаных у «спажывецкую карзіну», будзе рабіцца і публікавацца Дзяржаўным камітэтам БССР па статыстыцы і аналізу на аснове базісных цэн, існаваўшых у красавіку бягучага года.

ЧАС ПАДПІСАННЯ Ў ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ Ў 21.05.

